# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 23 (1162) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 4 ЧЭРВЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БОЦЬКІ

Тут дагэтуль ніхто не наткнуўся на якія-небудзь выдатныя помнікі старажытнасці ці ранняга сярэднявечча, а археалагічная разведка, як амаль па ўсёй усходняй Беласточчыне, так і ў гэтых ваколіцах ніколі не праводзілася. Але няма сумнення, што гэтая мясцовасць у тыя часы не была нейкай пустэчай, калі ў акружаючых яе Бранску, Суражы, Драгічыне, Мельніку існавала ўжо гаспадарчая і культурная дзейнасць людзей. Калі тыя старадаўнія часы ляжаць вечнай таямніцай, то бліжэйшае да нас XVI стагоддзе напісала тут больш даступную старонку гісторыі.

Калі ў 1494 г. па розных палітычных разліках трыццацітрохгадовы каралевіч польскі і вялікі князь літоўскі **Аляксандр** выказаў ахвоту ажаніцца з княжной **Яленай**, дачкой вялікага князя маскоўскага **Васілія**, тады ніхто не спадзяваўся, што гэтую пару будзе яднаць зусім не дынастычная палітыка, але самае шчырае, самае праўдзівае на свеце каханне — рэч проста небывалая сярод пануючых у тыя часы! Іменна каханне, і то з першага погляду, бо Аляксандру надта ж прыйшлася па сэрцу чароўнай красы маскоўская княжна, а і яна вельмі палюбіла гэтага магутнага „літоўскага мядзведзя". Полымя ўзаемных пачуццяў пануючай пары не то што не абпаліла, але якраз абагрэла многіх прыбліжаных да двара. Нават невядомы нікому дагэтуль пісец-марака **Івашка Сапега**, прыдадзены Аляксандрам Ялене да яе паслугаў, хутка вырас на фанабэрыстага канцлера. І калі пасля смерці караля польскага **Яна Ольбрахта**, у канцы ліпеня 1501 г. Аляксандр і Ялена на чале мнагалюднай сваёй світы прыбылі ў Мельнік над Бугам, каб весці перагаворы з польскімі магнатамі аб увядзенні іх на кракаўскі каралеўскі трон, тут таксама круціўся і Івашка Сапега. Перагаворы ішлі туга і доўга. Толькі пасля вялікіх уступак з боку Аляксандра на карысць вольніцы магнатаў дайшло да згоды, і недзе ў канцы лістапада вялікакняжаская пара пакінула Надбужжа, каб зараз жа падацца ў сталічны Кракаў. Прабыванне ў Мельніку не змарнаваў хітры Івашка Сапега: ён пільна прыгледзеўся багатым вялікакняжаскім маёмасцям на Падляссі і надта ж упадабаў сабе Боцькі. І не прамінуў выблагаць у сваёй пані, каб тая выпрасіла ў свайго мужа, ляжаўшага ўлетку 1506 г. ужо на смяротным адры ў Вільні, наданне гэтай маёмасці яе даверанаму канцлеру. Ці ж мог уміраючы кароль адмовіць у просьбе адзінаму ў жыцці любімаму ім чалавеку, сваёй каханай Ялене?



Помнік загінуўшым у Боцьках у барацьбе з рэакцыйным падполлем 34-ом міліцыянерам і працаўнікам дзяржаўнай бяспекі.

Як вынашаны доўгімі гадамі ў марах жаданы пергамін з наданнем апынуўся ў руках Сапегі, ён ужо меў гатовы план да дзеяння. Каля вёсачкі Боцькі зараз жа вырас пышны магнацкі палац, акружаны абшырным паркам і садам з люстрамі рыбных сажалак. Мясцовасць гэтая атрымоўвае ў 1509 г. гарадскія правы і становіцца „славэтным местам" Боцькамі з бойкімі кірмашамі, звітнымі купцамі, умелымі рамеснікамі.

Пасля смерці ў 1517 г. сквапнага на багацце канцлера яго нашчадкі таксама не спалі ў шапку, і хутка Боцькі вырастаюць на другі, пасля Бельска, па велічыні і багаццю горад на Падляссі. У 1571 г. у ім на васьмі вуліцах было 235 дамоў, красаваліся царква і касцёл, на рацэ Нурцы грукацела некалькі млыноў, завіхаліся на бяндзюзе плытнікі. Боцькаўская маёмасць Сапегаў усё разрастаецца, і ў 1577 г. у яе ўваходзяць разам з мястэчкам тры фальваркі: **Боцькі, Дубна, Кнарыды**, і вёскі: **Старое Сяло, Краснае Сяло, Кнарыды, Рамашкі, Мокрае, Дыдулі, Дубна, Нурэц, Малочкі, Пятроўшчына, Косьная, Шашылы.** Аб незлічоных багаццях і незвычайным самадурстве Сапегаў пачынаюць кружыць па Беларусі і Польшчы легенды. Адна з іх кажа, што яны любілі даваць сваім высокапастаўленым госцям незвычайныя прыёмы. Аднойчы нават загадалі ладзіць у жніво язду санямі. Дзеля гэтага на некалькіх вярстах гасцінец высыпалі тоўстым пластом цукру, і па гэтай салодкай саннай каталіся шасцярыком вялікапанскія госцейкі. Другая ж гаворыць, што калі Сапега падаваўся на каралеўскі двор у Вільні ці ў Варшаве, дык абавязкова яго коні былі падкаваны залатымі падковамі. Усё было так падрыхтавана, што адну або дзве такія падковы коні губілі пры пад'ездзе ў каралеўскі палац і знаходзілі іх каралеўскія слугі. Пасля Сапегаў Боцькі належалі Браніцкім, Патоцкім і іншым магнатам.

Зусім іншы, гераічны і працавіты, раздзел у гісторыі Боцькаў пачалі пісаць нашчадкі былых сапежынскіх паншчынных сялян усяго сорак год таму назад. У часе гітлераўскай акупацыі ў боцькаўскім лесе **Храніборы** няраз скрываліся пасля ўдалых нападаў на фашыстаў партызанскі атрад імя **А. Пархоменкі** і іншыя. З імі супрацоўнічала шэраг жыхароў мястэчка, у тым ліку нават камендант нямецкай паліцыі К. Карвінскі. Не мала боцькаўцаў прайшло слаўны баявы шлях у Людовым Войску Польскім, напрыклад, **А.**

(Працяг на стар. 6)



Рэчка Нурэц каля Боцькаў разліваецца маляўнічым затоннем, і тут мясцовае грамадства плануе пабудаваць басейн.



Заслужаная дзяячка культуры ў Боцьках, кіраўнік мясцовага самадзейнага калектыву „Клекацякі" Генавефа Луцыян.

20

НАША АНКЕТА

## ШТО ВЫ ЛІЧЫЦЕ НАЙБОЛЬШ КАШТОЎНЫМ У НАШЫМ ЛІТАРАТУРНЫМ РУХУ?

**ВІКТАР ШВЕД — паэт, старшыня літаратурнага аб'яднання „Белавежа".**

Найбольш каштоўным у беларускім літаратурным руху ў нашай краіне, памойму, з'яўляецца тое, што гэты рух заваяваў ужо сабе трывалае права грамадзянства ў галіне культуры ў Народнай Польшчы. Нас ведаюць і чытаюць, намі цікавяцца. Маем ужо чатырохасабовае прадстаўніцтва ў Саюзе польскіх пісьменнікаў. Нашых аўтараў часта запрашаюць на аўтарскія сустрэчы ў многія мясціны далёка за межамі Беласточчыны. Вершы „белавежцаў" друкавалі шматлікія польскія грамадска-літаратурныя часопісы. Творы нашых пісьменнікаў шырока вядомы сярод беларусаў, пражываючых у Польшчы. З якім захапленнем, для прыкладу, дзеці ў школах слухаюць вершы на мове, так ім блізкай і зразумелай!

Гэтага аднаго хапіла б, каб станоўча ацаніць наш літаратурны рух.

**НІНА АВЕРЧУК — сялянка з вёскі Арэшкава ў Гайнаўскай гміне.**

Вялікае значэнне мае наша беларуская літаратура. То ж нашы пісьменнікі распаўсюджваюць родную мову, наш мясцовы фальклор, ды і ўвогуле, каб не яны, то мы, беларусы, пражываючыя ў Польшчы, проста не ведалі б, кім мы ў сапраўднасці з'яўляемся, былі б ні то такія, ні то сякія. Вельмі тады добра, што знаходзяцца сярод нас людзі, якія не саромяцца сваёй нацыянальнай прыналежнасці, якія з гонарам заяўляюць, што яны беларусы. У след за імі і мы пазбываемся гэтай, так нам характэрнай, грамадскай сарамлівасці. Без нашых пісьменнікаў былі б мы намнога бяднейшыя духоўна і пачуццёва. Яны найлепшыя для нас настаўнікі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ — паэт, загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.**

У беларускім літаратурным руху ў Польшчы можна вызначыць вартасці шматбаковыя, трывалыя і бясспрэчныя. Асабліва ў апошнія гады наглядаюцца прызнакі яго мастацкай сталасці. Гэтая сталасць праявілася, між іншым, і ў жанравай разнастайнасці літаратурнага выяўлення думак. Нашы пісьменнікі маюць за сабой спробы ў галіне паэтычнай лірыкі, мастацкага апавядання і драмы. Шкада толькі, што не дачакаліся мы нейкай глыбейшай аповесці аб лёсе беларуса, пражываючага ў Польшчы, на працягу апошняга паўвека.

Іншай слабасцю нашага літаратурнага руху лічу я перарост міфаманії і самазахаплення. Многім „белавежцам" (тут не выключаю і сябе!) прыдалося б больш скромнасці і пакорлівасці перад чытачом.

**АЛЯКСАНДР ЗАКРОЙШЧЫК — настаўнік з Нараўкі.**

Самае каштоўнае — гэта тое, што ўвогуле такі рух існуе, што выдаюцца ў Польшчы беларускія кніжкі, укараняецца родная мова, а на старонках „Нівы" паяўляюцца ўсё новыя прозвішчы пераважна маладых людзей, якія спрабуюць сваіх сіл у літаратурнай творчасці на беларускай мове.

Без літаратурнага руху не было б ані альманахаў, ані паэтычных зборнікаў, ані нават беларускіх календароў. Што тады рабілі б мы, настаўнікі беларускай мовы, у школах? Прыйшлося б шукаць іншай спецыяльнасці.

**САКРАТ ЯНОВІЧ — празаік, старшыня літаратурнага клуба ў Беластоку.**

Не было б сёння сур'ёзнай размовы аб беларускім літаратурным жыцці на Беласточчыне, калі б за мінулае дваццацігоддзе „Белавежы" нашы аўтары не напісалі добрых твораў ды кніжак. Літаратурная Беласточчына зараз не толькі бярэ з нацыянальнага скарбу, але і сама яна ўзбагачае яго ўласным адчуваннем і разуменнем чалавека. І менавіта гэта можна лічыць вярхоўным

(Працяг на стар. 3)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ. ПАШЫРАНЫ ВЫПУСК




*ЯН ЛЕАНЧУК:*

*Прозвішча? Імя? Хто блізкія? Родныя?*
*Любіце сонца і ваду, ці месяц і сажу?..*
*Так. Значыць*
*Хочаце пісьменнікам быць?!*
*Ваша жаданне надзвычай скромнае!*
*Але што ж, прыміце маё благаслаўленне,*
*А Час вам дарогу пакажа.*

## МАТЫЛЬДА

Купілі мы жывога карпа. Укінулі яго ў ванну.

— Я галодная, — сказала Матыльда і прынесла малаток.

Я вылавіла карпа з вады.

— Пусціце мяне, дзяўчынкі. Я зраблю для вас усё, — заспяваў карп голасам залатой рыбкі.

— А што? — Матыльда аблізалася.

— Дам вам славу, грошы і шчасце...

— Дробязь! Я галодная, — адрэзала Матыльда рашуча і забіла карпа малатком.

— ...А можа і даў... бы... ён нам чаго... таго там шчасця... і ну... тых там? Грошай? — выбалбатала Матыльда праз паўгадзіны ротам, поўным недаваранага карпа.

**М. Лукша**

## ЗОРКА

*Яніне Чэрнякевіч прысвячаю*

Многа год над нівай
Роднаю сваёй
Зззяеш ты шчасліва
Зоркай залатой.

Ты святла праменні
Сееш на вачах.
Юным пакаленням
Асвятляеш шлях.

Жыццця пастаянна
Вучыш таямніц.
Вучыш мець пашану
Да сваіх крыніц.
Зоркай пуцяводнай

Будзь нам шмат гадоў,
І да мовы роднай
Прывівай любоў.

І да песні звонкай,
Што плыве з хацін,
Да сваёй старонкі,
Да сваіх мясцін.

Да свайго народу,
Да сваіх бацькоў,
Прывівай заўсёды
Вернасць і любоў.

**Віктар Швед**



*ДА ВІКТАРА ШВЕДА*

*Ступі за палоску сваёй мяжы.*
*Дзеці ж хочуць жыць і расці:*
*Жывое слова ім скажы —*
*Не кармі іх кніжнай мудрасцю.*



*На Падляшшы зброі стук,*
*У пагоні М. Гайдук.*
*— Куды скачаш, княжа?*
*— У вотчыну яцвяжу.*

* * *

Разлукай з табой, як крыжамі Галгофы,
Пужае мяне немінучасці дэман.
Закончацца нашыя дзіўныя строфы,
Супольны раздзел у жыццёвай паэме.

Вачэй тваіх бляск, як ліхтар у пячоры,
Гарэў увесь час і паказваў дарогу.
З табою мінаў я і ямы, і горы,
І слёзныя рэчкі і смуткаў парогі.

З табою я плыў, як у боскім пароме,
Малое дзіця у абдымках мадонны.
Прыгожы твой твар, бляск усмешкі знаёмай
Для сэрца былі, як бальзам цудатворны.

Віно пацалункаў тваіх ап'яняла.
З табой забываў я мінулыя мукі,
Калі чуў на ўзлонні тваім, як каболу,
Гарачага сэрца раскошныя гукі.

Ды час не стаіць, ён бяжыць без затрымкі,
Даходзім мы ўжо да хвілін расставання.
Прыдзецца ісці нам па розных сцяжынках,
Астануцца толькі ўспаміны з кахання.

Я буду чакаць на другую сустрэчу
У путах няволі будзённага быту.
І сніцца нам будзе цудоўны наш вечар
На першым спатканні на нашых арбітах.

**Д. Шатыловіч**

(Працяг са стар. 1)

## ШТО ВЫ ЛІЧЫЦЕ НАЙБОЛЬШ КАШТОЎНЫМ У НАШЫМ ЛІТАРАТУРНЫМ РУХУ?

здабыткам „белавежцаў“, калі забыцца на хвіліну аб тым, што з такой думкай засталіся б мы ў межах разважанняў пра сутнасць літаратуры наогул, пра значэнне мастацкага слова.

Галоўным жа здабыткам нашым лічу я трывалае замацаванне тут беларускай мовы, як вышэйшага дабра ўсіх суродзічаў Беласточчыны. Без збудавання яе „тутэйшага“ аўтарытэту, відаць, не было б і нас, і нашай кветкі ў колерным агародзе Літаратуры.

**ЮРКА ТУРОНАК — журналіст, старшыня навуковага гуртка пры ГП БГКТ.**
Найбольш каштоўнай рысай нашай літаратуры лічу яе аўтэнтычнасць. Гэта праяўляецца ў тым, што ў творчасці большасці празаікаў і паэтаў важнай крыніцай інспірацыі з'яўляецца родная Беласточчына, яе прырода, мінуўшчына ці шматгранныя пытанні сучаснай нашай „малой бацькаўшчыны“. Нават у асэнсаванні агульначалавечых праблемаў родны фон з'яўляецца пладатворнай канвой роздумаў і ацэнак. Гэтыя якасці спрыяюць ідэнтыфікацыі беларускай літаратуры Беласточчыны і ствараюць аснову яе рэалістычнага напрамку. Аб аўтэнтычнасці нашай літаратуры сведчыць таксама творчая самабытнасць паасобных пісьменнікаў: кожны з іх прадстаўляе толькі сабе ўласцівы дыяпазон пытанняў і творчых намераў. Факт, што „белавежцам“, як правіла, удалося пазбегнуць пераймальніцтва, паказвае на салідны грунт, на якім расце наша літаратура.

**АНТАНІНА ХАРКЕВІЧ — вучаніца Гайнаўскага беларускага ліцэя.**
Творы беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць у Польшчы, кшталтуюць маю грамадскую свядомасць ад дзіцячых гадоў. Упершыню сустрэлася я з імі ўжо ў I класе пачатковай школы ў маёй роднай вёсцы Ляшукі, дзе на ўроках беларускай мовы чытаў нам іх наш настаўнік Аляксандр Харкевіч.

Недалёка ад Ляшукоў, у вёсцы Бандары, нарадзіўся беларускі паэт Алесь Барскі, які прыязджаў да нас на аўтарскія сустрэчы. Яго творы я чытаю найчасцей. Але не толькі яго. У нашай хатняй бібліятэцы знаходзяцца амаль усе кніжныя выданні беларускіх мясцовых пісьменнікаў. У іх творах знаходжу я адлюстраванне самых блізкіх мне пачуццяў і меркаванняў. Ёсць там штосьці намі пережытае, сваё. У ніякіх іншых кніжках гэтага няма. І гэта для мяне самае каштоўнае ў беларускім літаратурным руху ў Польшчы, гэта яго сіла.

**ВАЛЯНЦІН АНАПЮК — вучань ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску.**
Хаця беларускі літаратурны рух у Польшчы яшчэ зусім малады, ён ужо ахоплівае шырокія кругі беларускага насельніцтва, якое тут жыве. Доказ гэтага — пастаяннае папаўненне літаратурнага аб'яднання „Белавежа“, што асабліва мяне цешыць. Многіх сярод пачынаючых пісьменнікаў я ведаю асабіста, ведаю таксама, што пішуць яны на беларускай мове з унутранай патрэбы, бо так ім дыктуе сэрца.

**ЯН ЧЫКВІН — паэт, ад'юнкт філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.**
Паколькі тое, што на працягу дваццаці апошніх гадоў створана паасобнымі нашымі аўтарамі, наўрад ці пакіне трывалы след у гісторыі культуры Польшчы (па прычыне суб'ектыўных і аб'ектыўных фактаў), то ўстойлівую вартасць нашай дзейнасці трэба бачыць якраз у самім літаратурным руху.

Мы жывем у Польшчы, краіне багатай традыцыямі дэмакратычнай талерантнасці. Гэта наша айчына. Мы тут нарадзіліся, выраслі, вучыліся, працуем. Мы поўнасцю ўпісаны ў клімат і культуру польскую. Але якраз дзякуючы гэтаму, дзякуючы таксама разважлівай палітыцы нашай партыі і ўраду ў адносінах да нацыянальных меншасцей, можам развіваць сваю культуру, пісаць і выдаваць літаратурныя творы па-беларуску, гаварыць і думаць па-беларуску. За гэта нас цэняць у польскіх творчых асяроддзях.

Мне здаецца, што вартасць літаратурнага руху заключаецца перш за ўсё ў тым, што дзякуючы магчымасці такой дзейнасці з масы насельніцтва сялянскага паходжання выдзелілася група інтэлігентаў, якія разбуджаюць і падтрымліваюць самасвядомасць беларусаў. Таму надалей патрэбныя частыя сустрэчы з аўтарамі, журналістамі „Нівы“, актывістамі БГКТ. Бо ўсе гэтыя людзі ствараюць адпаведны, дэмакратычны зрух, якім ад стагоддзяў славілася і славіцца наша Польшча.

Выказванні сабраў **Віктар Рудчык**




*НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ:*

*Дылема гэтая не новая —*
*Такія ўжо ў інтэлігентаў справы:*
*Калі нарэшце выйду з Аўгустова я,*
*То ці напэўна буду у Варшаве?!*

# СВЯТАЯ НОЧ

Месяц з кадзільніцы
сівай імглою,
лугі ачышчаючы
з грэшнасці дня,
моліцца ціха
над соннай ракою —
чыстасцю светлай
у святых берагах.
Пад спеў цудатворны,
што з крыласа неба
уліваецца ў чашу
зямнога быцця,
дыялаг знаёмы
вядзе з перажытым
сплюнуты часам
плявочак жыцця.

**Міхась Шаховіч**



*УЛАДЗІМІР ГАЙДУК:*

*Далёкі сябра мой, паэт!*
*Не толькі дзеўка-Муза, арфа, салавей, мімоза...*
*Ёсць, ёсць, напэўна, іншы свет:*
*Цяляпаэзія і конепроза!*

# Не пра нас, не для нас

1.
Даўно, даўно таму назад,
Калі не друкавалі „Нівы“,
Калі людзей не білі па мазгах
Драматычна-паэтычнымі „навінамі“ —
Паэтаў столькі не было,
Празаікаў не густа.
Нармальнае жыццё цякло
У вёсках беларускіх.
2.
Сёй-той сям-там вастрыў,
Фальклорнічаў і керпаў
І доўгія пісаў лісты
Да ўлад, да цёшчы, да суседа.
3.
Хоць... быў Андрэй і дзядзька Злеп,
Быў Янка. Зося і Мікола.
Але — нясмачны гэта хлеб:
Ох, апісаць усё наўкола!
4.
Тым больш, што ўсё — нармальна і здарова,
Як не глядзі і не талкуй.
І так пісалі класікі:
        Васёк, Шатэн з Ілова,
Відур і Шурб, Шкарпет, Галдуй.
5.
І скромна-згодна, як адзін, маўлялі:
„Сваё напішам і — ад'ю!
Не быць паэтамі нам вечна!
Уступім славу салаўю!
Хоць зерне мы пасеялі ў раллю:
Няхай расце... асот і грэчка!“
6.
Але не суджана было... Бо з Беластока
Іх згледзеў нейк Рэдактарыцкі
Ды ўзяў падумаў: „Што каб
Ну... даць пассаць ім Музы цыцку?!“
7.
На малако накінуліся хлопцы,
Як на гарэлку, і пілі ад рання.
Але не доўга Музу ссалі творцы —
Свярбелі рукі да пісання.
8.
У скрынках рос ліловы
Хлапчук і зваўся Чоўп Пракляцце
І ўсё пісаў „Гнілое у здаровым“ —
Паэма-проза-праклямацыі.
9.
Яшчэ ў кароткіх нагавіцах,
Недзе пад Гайнаўкай іржавай
Жыў і ствараў Янка Амбіцкі
Свае паэза-псіха-справы.
10.
Гавораць, зараз з дуру
Або ад радасці гаротнай
Стаў друкаваць свае амуры
Вучоны нейкі з Вандалотаў.

Ва ўсім ён быў сам-першы:
Касцюм, фігура, голас,
Пісаў, як з нот, ліхія вершыкі,
Дасціпкаваў... з -оў, -аў.
І ўсё ствараў. Гавораць: школу
Для Жахаўся і іншых коцікаў.
11.
Па свеце гойсае гамонка
(Ці слухаць вы гатовы
Той голас непадроблены і слаўны?!):
Ў сталіцы пад нагой Тыгронка
Лірычным стогнам Яраслаўны
Сумуе-плача Мармытовіч.
12.
Бачу: чытаюць і дзьмухаюць людзі,
Як на гарачую кашу —
Таму і часткі апошняй не будзе
У гісторыі гэтай, не-нашай.
13.
Расці, цвіці літаратура!
Буяньце з Музамі паэты!
Такая ўжо у вас натура,
Хоць мы вас цэнім не за гэта!

**Дратва**




*Паэт яшчэ ранні,*
*А ўжо пра мінанні.*



*Хто на рынгу? А, Чыквін!*
*З выгляду ты херувім.*
*— А пашлю, ей-богу,*
*У накдаўн любога!*

# XX год „БЕЛАВЕЖЫ“

Беларускаму літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа“ сёлета спаўняецца дваццаць год. Проста цяжка паверыць, што прамінула столькі часу ад таго сонечнага ранка 8 чэрвеня 1958 года, калі невялічкая жменька пішучых на роднай беларускай мове і прыхільнікаў такога пісання сабралася ў рэдакцыі „Нівы“ і дала пачатак гэтаму арыгінальнаму згуртаванню літаратурных саматужнікаў на Беласточчыне. Гэтыя два дзесяцігоддзі не прайшлі бясследна: калектыўны зборнік вершаў, каля дваццаці індывідуальных зборнікаў, зборнік твораў для дзяцей, некалькі альманахаў, багатыя падборкі твораў у „Беларускіх календарах“, амаль чвэрць тысячы літаратурных старонак у „Ніве“, дзесяткі перакладаў на польскую, чэшскую, нямецкую і іншыя мовы ў розных выданнях у краіне і па-за яе межамі, некалькі тысяч аўтарскіх сустрэчаў ад Варшавы пачаўшы і кончыўшы на самых далёкіх і глухіх вёсачках Беласточчыны. У суме гэта ж некалькі тысяч вершаў, мініяцюраў, замалёвак, апавяданняў, навелаў, паэм, п'ес, аповесцей — вось тое, што можна змерыць лікамі. Яму спадарожнічае вялікае выхаваўчае, запладняючае і ўзбуджаючае да актыўнага ўдзелу ў грамадскім і культурным жыцці ўздзеянне на дзесяткі, а нават сотні тысяч чытачоў — гэта ўжо невымяральная, але найвышэйшая каштоўнасць.

Дваццаць год — гэта не малы ўзрост, ён дазваляе глянуць на здзяйсненні „Белавежы“ па-даросламу разважліва і патрабавальна. Таму і ёсць нагода падкрэсліць бясспрэчны факт, што з'яўленне літаратурнай творчасці на беларускай мове ў Народнай Польшчы — гэта праяўленне кіраўніцтвам польскай дзяржавы высакародных прынцыпаў інтэрнацыяналізму, глыбокай пашаны да прагрэсіўных традыцый іншых народаў і народнасцей, стварэнне ім прыхільных умоваў для культурнага жыцця, выяўлення і развіцця творчых каштоўнасцей на роднай мове. Кожнаму вядома: калі б не паўстала Беларускае грамадска-культурнае таварыства, не пачала выходзіць „Ніва“, тады не было б у нас літаратурнай творчасці ў такой форме. Народжаная пры народнай уладзе яна ад першых твораў і па сённяшні дзень імкнецца ўдзельнічаць у тых грамадскіх пераўтварэннях, што адбываюцца ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне, ва ўсёй Народнай Польшчы, у суседніх сацыялістычных краінах, поўнасцю адабрае гэтыя працэсы і заклікае да ўдзелу ў іх. Адначасова ў ёй дамінуе ідэя ўлюбёнасці ва ўсё роднае: зямельку, мясціны, традыцыю, мову, песню. Пры тым заўсёды ўмацаванне садружнасці народаў сацыялістычных краін, беларуска-польскія гістарычныя і культурныя ўзаемасувязі знаходзяцца ў цэнтры яе ўвагі.

Дагэтуль былі ў „Белавежы“ зусім не кароткія гады звычайнага апісальніцтва, голай дэкларатыўнасці і назойлівага павучальніцтва, нярэдка яе аўтары намагаліся быць надта ж надзённымі, актуальнымі, плакатнымі. Затым павярхоўнае бурлівенне пачало пакрысе суцішацца і настапі часы заглядання ва ўнутр перажыванняў чалавека, логіку жыццёвых працэсаў, сутнасць падзей. І тады з-пад пёраў адных „белавежцаў“ хлынуў неўтаймаваны паток традыцыйнай любоўнай лірыкі, які ў некаторых з іх перарадзіўся ў голы эратызм, але затое ў другіх паявіліся цікавыя і свежыя выказванні аб своеасаблівым успрыйманні жыцця і навакольнай рэчаіснасці. Разам з гэтым у іх паэзіі змянялася сістэма вершаскладання.

Вядома, ва ўсім трэба адчуваць адпаведную меру. З гэтым жа ў нашых „белавежцаў“ бывае не так проста. Імкненне да прастаты і непасрэднасці выказвання няраз пачало даводзіць да інфантылізму думкі і прымітывізму формы. Не будзем таіць: пасыпаліся копамі „творы“ без складу і ладу. Што ж, адзінае лякарства на такую хваробу —

В. Мішаніна

# Цiхоня

— Цiхоня, пайшлі ў футбол гуляць! — крыкнулі пад акном хлопцы.

Хлопчык гадоў сямі выйшаў да іх. Яго сапраўднае імя Ціхан. Але хлопцы ні то ад маці чулі гэтае слова, ці то самі выдумалі, — так і застаўся ён для іх Ціхоняй.

У футбол ён ніколі не гуляў, ды і ў іншыя гульні рэдка. Але ўсё роўна ні адна гульня без яго не пачыналася. Хлопцы прызвычаіліся да яго, і, калі гулялі, кожны з іх адчуваў, што за яго гульнёй наглядае Ціхоня. І калі яны спрачаліся, не слухаючы адзін другога, кожны ведаў: Ціхоня не прапусціць ім ніводнага слова.

Сам Ціхоня рэдка падаваў голас, але ледзь толькі ён пачынаў гаварыць, як усе чамусьці змаўкалі. А скажа ён усяго дзве-тры фразы. Раз толькі нагаварыўся, калі расказваў сон. А было так.

— У сне быццам зямля ўся задрыжэла, — пачаў ён ціха-ціха, неяк па-даросламу змружыўшы вочы. — І раптам бачу: траўка зрабілася сіняй-сіняй. Вецер хіліць гэту траўку, а яна мне шолахам сваіх лісточкаў нешта шэпча. Агледзеўся вакол, а тут паветра зрабілася сінім-сінім, і вецер робіць з яго сінія хвалі. Стаю, слухаю, аказваецца, уся зямля языком траўкі шэпча і быццам мне тайну гаворыць... Я бачу сінія...

Хлопцы, якія да гэтага часу слухалі з раскрытымі ратамі, нечакана разрагаталіся.

Ціхоня змоўк, пачырванеў.

Хлопцы, насмяяўшыся, спахапіліся і пачалі прасіць яго, каб даказаў свой сон. Але Ціхоня ўпарта маўчаў. Так ён на гэты раз і не загаварыў больш.

Хлопцы ведалі, што ён вельмі любіць сіні колер. А чаму засмяяліся, яны самі толкам не разумелі. Але кожны з іх адчуў нялоўкасць і пра сябе падумаў: будзь ён сам-насам з Ціхоняй, абавязкова даслухаў бы яго дзіўны сон. Яны паміж сабой ніколі нічога падобнага не расказвалі, можа, таму і смяяліся. Пашкадавалі і забыліся.

У сярэдзіне лета сярод іх паявіўся гарадскі хлопчык, Ванькава радня. Ён прыехаў са сваёй мамай у вёску адпачываць.

Хлопцы так і празвалі яго — Гарадскім.

Гарадскога прынялі ў сваю кампанію хутка. Яны з захапленнем глядзелі на яго пісталет, які, як сапраўдны, бабахаў, ды так, што дым ішоў. Цэлы дзень круціліся хлопцы каля Гарадскога. Ён падарыў ім усім па значку і нават даваў ім патрымаць у руках свой пісталет і накручванага салдаціка.

Адзін Ціхоня быў абыякавы да яго цацак і стаяў збоку.

Гарадскі заўважыў гэта і падышоў да яго, падаў яму сам свой



пісталет. Але Ціхоня нават не дакрануўся, толькі кіўнуў галавой: маўляў, добры.

На другі дзень Гарадскі прынёс паказаць хлопцам ліхтарык, маленькая лямпачка ў ім свяцілася сінім агеньчыкам. Першым даў паглядзець Ціхоню.

Ціхоня ўзяў ліхтарык, накіраваў святло на сябе. Хлопцы бачылі, як ён змяніўся на твары: пабялеў і засвяціўся радасцю.

Гарадскі, задаволены, наглядаў за ім, ухмыляўся: нарэшце ён знайшоў, чым заваражыць гэтага Ціхоню. Ён пацягнуў Ціхоню за рукаў:

— Падабаецца?

Ціхоня ўзняў галаву, радасць на яго твары згасла. А калі аддаваў ліхтарык, рука яго ледзь заўважальна дрыжала.

Гарадскі ўзяў, але падаў назад.

— Хочаш, падару назусім?

Хлопцы стрымалі дыханне.

У Ціхоні быццам светлы агеньчык мігнуў у вачах, працягнуў абедзве рукі да ліхтарыка.

Але Гарадскі пакруціў ліхтарык у яго пад носам і адшарпнуў руку, схаваў за спіну, а другой рукой паказаў фігу.

Ціхоня павольна апусціў рукі, радасці як не бывала.

Гарадскі галасна зарагатаў, што яму штучка ўдалася:

— Ціхоня паверыў, ха-ха-ха! — задаволены, рагатаў ён.

Але яго смеху ніхто не падтрымаў.

Гарадскога насцярожыла гэтая цішыня, ён перастаў рагатаць. Пераводзіў погляд з аднаго на другога, шукаў падтрымкі. Усе ад яго адварочваліся.

— На, не патрэбны мне твой значок, — падышоў да яго Васіль і сунуў значок яму ў руку.

Ціхоня, так і не сказаўшы ні слова, павярнуўся і павольна пайшоў па сцяжынцы. Хлопцы моўчкі пацягнулі за ім.

Гарадскі разгублена міргаў вачыма, потым махнуў рукой.

— Падумаеш, Ціхоня... — Сіні агеньчык свяціўся ў яго руках.

# Падарунак

Бабуля паклала скрыначку з круглымі дзірачкамі ў сетку і разам са сваімі ўнукамі Уладзікам і Сашкам пайшла на пошту.

Там адразу паставіла скрыначку на вагу. Цётка, якая прымала пасылку, запытала, што ў ёй.

— Яблыкі для дачкі, — адказала бабуля.

— Яблыкі? — перапытала цётка-прыёмшчыца і адчыніла скрыначку. З яе выскачыла... шэранькае кацяня.

Бабуля аслупянела, а потым пачала крычаць на ўнукаў:

— Ах вы, жулікі! Пачакайце, вернемся мы дадому, я вам пакажу, як такія штучкі рабіць!..

А Уладзік і Сашка не разумелі, чаго яна злуецца. Хлопчыкі ж хацелі маме свой падарунак пасла͡ць. У іх тут аж чацвёра кацянят, а ў іх мамы — ніводнага...

М. Гутнік







У час гарцэрскага алерту ў Рыбалах. Настаўнік Віктар Ануфрыюк правярае гатоўнасць дружын да ўрачыстага збору. Аб алерце ў Рыбалах чытай на ст. 6.

Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 23 (1086) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 4.VI.1978 г

# Вясёлы куточак

— Бабуля, твае акуляры сапраўды павялічваюць?

—Так, Пецечка, для таго іх і нашу.

— Дык знімі на хвілінку і адрэж мне кавалак торту.

* * *

На стале ляжаць яблыкі. Малы хлопчык хоча іх з'есці.

— Колькі яблыкаў ляжыць на стале? — пытаецца маці.

Хлопчык пералічыў:

— Тры.

— Так, — кажа маці. — Адзін для таты, адзін для мяне, і адзін для цябе.

Хлопчык з'еў адзін яблык. Але яму яшчэ хочацца.

— Колькі цяпер яблыкаў на стале? — пытаецца маці.

— Два, — адказвае хлопец, — адзін для таты, і адзін для мяне.

— А дзе падзеўся мой яблык? — пытаецца маці.

— А твой я з'еў, — адказвае сын.

* * *

— Татку, дай грошай на кіно!

— Да маёй смерці не атрымаеш ні граша!

— Дык дай мне на пахаванне!

* * *

Малы хлопчык стаіць на мосце і плача:

— Чаго плачаш, хлопчык? — пытаецца дзядзька.

— Мая машына ўпала ў ваду.

— Не плач, тата табе новую купіць.

— Не купіць. Ён быў у той машыне.

# Пазнаёмімся

СССР, 692100, Приморский край, город Дальнереченск, ул. Октябрьская 2/2. Андреенко Тане. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

Бася Апольская, вучаніца 8 класа, в. Супруны, пошта Юшкаў Груд, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, Аз. ССР, г. Сумгаит, 8-ой микрорайон, дом 27, кв. 92. Анжеле Мегрян. Вучаніца 7 кл.

* * *

Яўгень Мароз, Славамір Стэпанюк, вучні восьмага класа, в. Рыбалы, пошта 17-104 Рыбалы, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Уладзік Нікіцюк і Анатоль Сегень, вучні восьмага класа, в. Янова, пошта 17-210 Нараў, Беластоцкае ваяводства.

# АДГАДАНКА

| | | |
|---|---|---|
| 2 | 4 | 16 |
| 5 | 3 | 19 |
| 3 | 1 | ? |

**Прыгледзься ўважліва да квадрата з лікамі. Кожны трэці лік у гарызантальным радзе вылічаны па аднолькавым прынцыпе. Які лік трэба ўставіць у апошнім радзе?**

Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1

**Р. Бензярук**

# Яблыня

(КАЗКА)

Жыў-быў Чалавек. І найбольш любіў ён вырошчваць розныя дрэвы. Аднойчы засадзіў ён зярнятамі цэлы гародчык. Дружна пайшлі ў рост маладыя дрэўцы, толькі адна Яблынька была маленькая, кволая.

Падышла да яе Курыца, закудахтала:

— Вось я зараз цябе выграбу, — нічога не застанецца!

— Навошта ж мяне выграбаць? — адказала Яблынька. — Лепш я табе, як вырасту, яблык дам.

Курыца падумала і не кранула Яблыньку.

Перасадзіў Чалавек Яблыньку ў сад. Прыбег Заяц:

— Вось абгрызу кару — і ты засохнеш!

— Якая ж карысць з гэтага будзе, Заяц? Лепш я табе, як вырасту, два яблыкі дам.

Парашыў і Заяц яблыкаў дачакацца.

Чалавек прышчапіў Яблыньку. І пайшла яна расці, расці — ажно сябровак перагнала.

Аднойчы ў сад забраўся Мядзведзь. Вельмі спяшаўся паласавацца мёдам у вуллях, ды зачапіўся за Яблыньку, разлаваўся і зароў:

— Выцягну зараз з коранем, каб не замінала!

— Не трэба, Міхайла Іванавіч! Як вырасту, я табе тры яблыкі дам.

— А салодкія хоць тыя яблыкі будуць?

— Салодкія. Як мёд!

— Добра, тады не буду...

Нарэшце Яблыня зацвіла. Радаваўся Чалавек, пазіраючы на квецень. А восенню смачныя яблыкі зачырванелі на галінках.

Першай прыйшла да Яблынькі Курыца:

— Ты не забылася, што мне абяцала?

Яблыня скінула ёй яблык. Пасля прыскакаў Заяц:

— А мне яблыкі будуць?

— А як жа. Вось табе два.

Апошнім прытупаў Мядзведзь:

— Ну, аддавай доўг!

Яблыня скінула яму тры яблыкі.

Курыца, аднак, нагледзела, што на галінках яшчэ шэсць яблыкаў засталося. Не вытрымала і спытала:

— А гэтыя каму?

— Чалавеку.

Курыца пайшла за сяло, сустрэлася з Зайцам і паскардзілася:

— Яблыня мне адзін яблык дала, а Чалавеку ажно шэсць пакінула:

— А мне толькі два... — уздыхнуў Заяц і адразу ж пабег шукаць Мядзведзя.

— Несправядліва, Міхайла Іванавіч, — лісліва пачаў касавокі. — Мне два яблыкі дала. Курыцы — адзін, а Чалавеку аж цэлых шэсць беражэ.



— Непарадак! — зароў Мядзведзь. — Мне — тры, а Чалавеку — шэсць! Чым я горшы за Чалавека?

Прыйшла Курыца, Заяц і Мядзведзь да Яблыні.

— Чаму мне толькі адзін яблык дала?..

— А мне два?..

— А мне тры?.. — зароў Мядзведзь. — Чым жа Чалавек лепшы за нас?

— А тым, — адказала Яблыня, — што Чалавек клапаціўся пра мяне, памагаў мне. А вы толькі пагражалі знішчыць мяне. Цяпер я толькі Чалавеку буду дарыць яблыкі.

# Гусак

Ганька з Андрэйкам, які вучыўся ў другім класе вярталіся са школы. Ішлі і паціху гутарылі. Раптам Андрэйка крыкнуў: „Атаман!“ — і кінуўся наўцёкі.

Ганька зірнула ўбок і ледзь не самлела: вялізны шэры гусак, выцягнуўшы шыю, ішоў проста на яе. Гусак быў злосны і сіпеў, як гадзюка. Дзяўчынка ад страху заплюшчыла вочы. Андрэйка стаяў воддаль і чакаў, што будзе.

Раптам, калі гусак гатовы быў вось-вось схапіць Ганьку за нагу, з высокага плоту саскочыў незнаёмы хлопчык і стаў паміж Ганькай і гусаком.

Ад нечаканасці гусак спыніўся і, прыгнуўшы галаву, глянуў на хлопчыка: „Хто гэта тут? Саступі дарогу!“ Але хлопчык не варухнуўся. Атаман патаптаўся на месцы, увабраў шыю і вярнуўся да гусей.

— Ой, як я спалохалася! Аж ногі дрыжаць... — ціха сказала Ганька. — А ты адкуль?

— Я — адтуль, — кіўнуў хлопчык на плот.

— Гэта ж цёткі Аўдоцці хата.

— Мы да яе ўчора прыехалі. Будзем тут жыць. Мой тата аграном. А я — Сяргей.

— А я — Ганька. Мы каля самай шашы жывём. Ты ў школу ходзіш?

— Ага, — адказаў Сяргей. — У першы клас.

— Значыць, будзем разам, — усміхнулася Ганька. І я ў першы...

— Я цябе да дому правяду, — сказаў Сяргей.

— Не трэба. Я не баюся гусей, — сказала Ганька. — Толькі Атамана...

— І мне было страшна, — прызнаўся Сяргей. — Як ён ішоў на цябе! Крылы — во! — Сяргей шырока раскінуў рукі. — Шыя — во! — Хлопчык прыгнуўся і выцягнуў уперад шыю. — А сіпі-іць!

Сяргей вылупіў вочы і засіпеў, як гусак.

Дзяўчынка звонка засмяялася і ўзяла хлопчыка за руку:

— Хадзем!

Неўзабаве яны дагналі Андрэйку. Той прыпыніўся, хацеў нешта сказаць, але змоўчаў. Прапусціў Ганьку з Сяргеем наперад, а сам паціху паплёўся ззаду.







# Алерт

У Рыбалаўскай школе больпасць вучняў — гарцэры. Школьны шчэп складаецца з трох дружын. Працуюць з гарцэрамі аж тры настаўнікі: шчэповы Віктар Ануфрыюк, Лідзія Смалеўская і Ніна Грыгарук.

Гарцэрскі алерт у гэтай школе ўжо даўно стаў традыцыйным святам.

Усе ў гарцэрскім адзенні сабраліся ў першы дзень алерту на ўрачысты збор. Ва ўзнёслай цішыні выслухалі спецыяльны загад начальніка Саюза польскіх гарцэраў, у якім гаварылася аб асаблівасцях сёлетняга, XIV алерту ЗГП.

У гэтым годзе наша краіна адзначае 60-годдзе атрымання незалежнасці Польшчы дзякуючы перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прыпадае таксама сёлета 35-годдзе Людовага Войска Польскага. 35-годдзе адзначае таксама ў гэтым годзе Саюз барацьбы маладых, арганізацыя, традыцыі якой прадаўжае гарцэрская служба сацыялістычнай Польшчы.

Аб усіх гэтых справах даведаліся рыбалаўскія гарцэры з загаду начальніка, а потым з гутаркі друха Віктара Ануфрыюка, які расказаў аб месцах народнай памяці ў іх ваколіцы.

Урачыстым маршам усе гарцэры накіраваліся ў Паўлы да помніка салдатам IV ударнага батальёна, помніка, пастаўленага на месцы крывавай бітвы ў 1943 годзе. На пліту помніка ляглі кветкі, а гарцэры сталі на ганаровую варту.

Другі дзень алерту быў прысвечаны сустрэчам з былымі выпускнікамі Рыбалаўскай школы. Цяпер ужо дарослыя людзі — Юрка Лук'янюк, Фаціма Наумюк з Рыба-



*Праца на школьным падворку.*



*Гарцэркі ў час адпачынку.*

лаў, Аляксей і Аляксандр Максімюкі з Паўлаў, дзядзька Марчук з Цялушак расказвалі дзецям аб сваіх гадах вучобы ў школе, аб цяжкасцях першых пасляваенных гадоў, недахопах сшыткаў і падручнікаў, аб уласнай працы. Перад гарцэрамі адкрываліся новыя, нязнаныя старонкі гісторыі ўласнай школы.

Трэці дзень алерту прайшоў пад лозунгам „Ад брамы па спартыўную пляцоўку“, які азначаў працу на школьным падворку. У Рыбалах гэты лозунг быў разуметы амаль даслоўна. Яшчэ загадзя школа дагаварылася са сваім апекуном — сельскагаспадарчай спулдзельняй у Рыбалах, і спулдзельцы навазілі на школьны двор шмат пяску і жвіру. (Дарэчы, вучні таксама дапамагаюць спулдзельні, асабліва пры капанні бульбы, сенакосах, нават мылі вокны і чысцілі новы будынак спулдзельні, які быў аддаваны ў карыстанне.) Гэта дало магчымасць гарцэрам упарадкаваць увесь школьны пляц. Цяпер тут ёсць месца і на спартыўныя гульні, і на прышкольны ўчастак, і на месца адпачынку ў час перапынкаў.

У другой палове дня гарцэры сустрэліся з прадшкольнікамі і іх выхавацелькай. Дзеці разам спявалі, танцавалі, а потым малыя прысутнічалі пры тым, як гарцэры рабілі для іх, будучых першакласнікаў, школьныя дапаможнікі.

У вясёлай гульні і працы прайшлі прыемныя гадзіны.

А ўвесь алерт даў шмат цікавага і карыснага, быў аднačасова незабыўнай урачыстасцю і прыемнасцю.

Закончыўшы алерт, у наступны дзень, калі адбываліся нядзеля партыйнага чыну, гарцэры працавалі разам з дарослымі, укладаючы і свае сілы ў агульную справу, у справу лепшага і прыгажэйшага жыцця.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

# Малы тлумачальны слоўнік „белавежцаў"

**патрэбніца** — найбольш патрэбная частка жанчыны (неалагізм Алеся Барскага);

**золатца** — характарыстыка асобы, да якой маем нечакана важную нам просьбу (форма, якая пашырылася ў вядомых фразеалагізмах Мікалая Гайдука);

**фу!** — анаматапеічная форма (Віктар Рудчык карыстаецца ёю ў якасці воклічу захаплення творчасцю сяброў);

**змястоўны** — безметафарны прыметнік (часты ў рэцэнзіях, напісаных Віктарам Шведам);

**сакрацік** — словаўтварэнне, якім названы лірычныя мініяцюры, што нагадваюць творы Сакрата Яновіча (напрыклад, у Янкі Целушэцкага);

**чыквінец** — пачынаючы пісьменнік, які па свайму духоўнаму складу з'яўляецца блізкім асабовасці Яна Чыквіна, напрыклад, Міхась Шаховіч);

**творчык** — сінонім формы: чыквінец, які тлумачыцца эпігонскім характарам твора дадзенага аўтара;

**наш паэт** — фразеалагічная адзінка, характэрная стылістыцы хронікі „З жыцця БГКТ", якая прымяняецца да тых „белавежцаў", якія яшчэ не дабіліся або не даб'юцца прызнання ў цэлай краіне, а вартыя таго, каб падтрымаць іх на духу;

**э-э-эгэ-гэ-гэ** або **м-мпхі** — эмацыянальны гук Георгія Валкавыцкага, які чуецца пасля ўкамплектоўкі ім чарговага нумара літаратурнай старонкі „Белавежы";

**юзвюкоўшчына** — назва адносін да літаратурнай творчасці з боку выдаўца папулярна-навуковых брашур;

**барскіяда** — разнавіднасць казанавізму, пашыраная на Беласточчыне, асабліва сярод паклоннiц таленавітасці „белавежцаў";

**Цэнтральны Парнас,** — прыватная назва групы „белавежцаў", пражываючых у Беластоку (глядзі: пісьмы Юрыя Туронка);

**літраб'яднанне** або **літраб'яданне** — жартоўная назва Беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа", якая ўжываецца ў выглядзе рэплікі падчас літаратурных семінараў (цяпер мала пашыраная);

**крацік** — ласкальная форма Юркі Генюша, калі ён мае справу да Сакрата Яновіча (разнавіднасці: **алесік** — да Алеся Барскага, **ясік** — да Яна Чыквіна, **юрачка** — да Георгія Валкавыцкага);

**плятун** — жаночая характарыстыка залётнага мужчыны, напрыклад, *Адчапіся ад мяне, плятун ты!* (Моўная інавацыя Любы Красоўскай, былога графіка літаратурнай старонкі „Белавежы".)

А вось некаторыя фразеалагічныя адзінкі, пашыраныя ў асяроддзі „белавежцаў":

*Я вас кахаю!* — стылістычны зварот на выпадак, калі паэт пачынае размову з жанчынай, якую ўпершыню бачыць.

*Здароў, падла!* — вокліч радасці „белавежцаў", якія даўно не сустракаліся.

*Я, на жаль, сёння моцна заняты,* — адказ „белавежца" на запрашэнне зайсці на мой літаратурны вечар. Разнавіднасць: *Ці ты здурэў — сёння ж Міколы і ўсе пойдуць піць!*

*Але і сакатаў ён, калі я сказаў яму, што думаю аб яго творчасці!* — іранічны зварот, аб іншым...

*А яна так і засукатала нагамі (каленямі)!* — стылістычны зварот „белавежскага" донжуана.

Падрыхтаваў да друку —

**А. Анташэвіч.**




**САКРАТ ЯНОВІЧ:**

*Цэняць мяне незнарок*
*У Мінску і у Польшчы.*
*Велькі горад Беласток,*
*А я куды большы.*

* ✲ *

пішам
усё
пішам
нумаруем
кожны дзень
грунтоўна
каемся
на палях
за кожны грэх
пішам
  пішам
    пішам
з дня на дзень
таўсцее кніга
столькі радкоў
шматкроп'яў
косак
было
ёсць
  будзе
як у кніжцы
стаім
пад напорам
выклічнікаў
мучаць нас
пытальныя
знакі
пішам
  пішам
    пішам
а
можа
наш шэдэўр
гэта
макулатура

**„Baвy"**

* ✲ *

У адной руцэ
Ты прынесла мне боль
а у другой
раскошу
чаго было ў далонях
  больш
тут не палічыш
тут не грошы
усё з далоняў я злізаў
і стаў я не тым чым быў
у радасць капнула сляза
у смутак смех прыплыў
акутала душу мяцель
і перастаў я разбірацца
ці я упаў
ці ўзляцеў
ці стаў царом
ці стаў паяцам

**Алесь Барскі**




*АЛЕСЬ БАРСКІ:*

*„свет звініць і жалезам*
*і сталлю;*
*гонарам сталі машыны,*
*харaством, і надзеяй, і марай,*
*і мы машынамі сталі".*
*(„Ведай, продак...")*

гэта салідная літаратурная вучоба. „Белавежцам", асабліва пачынаючым, неабходны такія працавітыя семінарскія заняткі па тэорыі літаратуры і аналізу канкрэтных твораў іх удзельнікаў, якія праводзілі ў „Белавежы" на пераломе 60-х і 70-х гадоў вядомыя тэарэтыкі і гісторыкі беларускай літаратуры з Савецкай Беларусі М. Тарасаў, М. Лазарук, Н. Гілевіч, а таксама нашыя больш вопытныя „белавежцы" А. Баршчэўскі, Я. Чыквін і іншыя. Толькі такім шляхам можна будзе пазбыцца асноўных слабасцей творчасці нашых аўтараў. Трэба адкрыта глянуць праўдзе ў вочы: якраз на часы тых семінараў і выпадае перыяд станаўлення і даспявання творчасці шэрагу „белавежцаў".

I яшчэ адно. „Белавежы" патрэбна разумная, аб'ектыўная літаратурная крытыка. Тыя прыяцельскія пагладжванні, што час ад часу паяўляюцца пра творчасць нашых аўтараў, — гэта не тое, што трэба. Вядома, заданне літаратурнай крытыкі вялікае, бо яна павінна ўводзіць чытача ў свет літаратурных з'яў, заахвочваць аўтараў да новых арыгінальных адкрыццяў, крытыкаваць недахопы, прабелы, памылкі паасобных творцаў і г.д. I з гэтым у нас найгорш. Некаторых нашых аўтараў апанавала такая ганарлівасць, што іх творчасць можна выключна толькі славіць і нельга аб ёй выказаць ніводнай крытычнай заўвагі. Але не толькі змаганне з зазнайствам стаіць перад крытыкай. Як ні глядзець, але ўсё ж надта вузенькі тэматычны абсяг у нашых „белавежцаў": унутраны свет чалавека, эротыка, сутычка вёска-горад — вось і ўсё. Застаюцца па-за іх зацікаўленнем цэлыя абшары і пласты праблем людскога існавання, працы, мінулага і безліч іншых спраў. Не багата таксама ў іх форм творчасці: верш, мініяцюра, апавяданне, замалёўка, зрэдку навела ці паэма ды старасвецкая п'еса „для мастацкай самадзейнасці". Амаль няма нарыса, адсутнічае повесць і раман, няма адважных пераходных форм: літаратурнай публіцыстыкі, мемуараў і г.д.

Але як ні кажыце, усё ж беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" пры ГП БГКТ — гэта арыгінальная, цікавая і непрамінаючая з'ява.

**Мікалай Гайдук**

* ✲ *

У руках нашых
Сонца і май
У вачах нашых
Іскры надзей
I цэлы свет — сімфонія.
  Над намі
  Неба чыстае
  Як крынічная вада
  За намі
  Заснулі неспакойныя пяскі
  А з намі — зорка гаручая.
I нават тады
Калі пацямнее дарога
А вецер і дождж вырасце сцяной
Мы будзем ісці
  Да чыстай вады
  Да ніў залатых
  I да нашага блакітнага неба.

**Надзея Артымовіч**

**Няма ў нас крытыкі. Гэта падкрэсліваюць нават найбольш уражлівыя на крытыку, якіх сам подых яе кідае ў ліхаманку. Палоска, якую аддаем у арэнду папулярнаму дзядзьку, вядома, не зменіць „крытычнай" сітуацыі, але можа яе разварушыць. Дзядзька, хоць прыкідваецца, што мала кумекае ў літаратуры, не раз ужо запускаўся ў яе нетры. Думаем, што і гэтым разам выцягне з іх арыгінальную здабычу. Калі ж яна будзе каму не да спадобы (калі сам трапіць на дзядзькаву палоску), хай нам прабачыць. Не рэкамендуем таксама доўга гневацца на дзядзьку. Чалавек ён не прадузяты, гаворыць, што думае. А шчырасць — не загана. Найбольш гарачым (патэнцыяльным) апанентам прапануем памяркоўнасць у выбары наступальных сродкаў. Лічым, напрыклад, безвыніковым заняткам пісаць на дзядзьку даносы ў „Ніву". Мы яго ведаем і давяраем яму. Упэўнены таксама, што не падвядзе ён і нас. Тым больш, што дзядзька не абмяжуецца літаратурнымі ўгоддзямі, напэўна пачне апрацоўваць і іншыя культуры.**

**Дык добрых поспехаў!**

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

Можа я ўзяўся і не за сваё дзела, але, як кажуць, трудна. У сёлетнім „Беларускім календары" зацікавіў мяне „Беларускі парнас у Народнай Польшчы" аўтарства В. Шведа. Праскочыў і на „Літаратурны палетак": дакладна прачытаў 15 вершаў нашых „белавежцаў". Так дакладна, як не чытаў дагэтуль (за ўвесь час існавання „Нівы" і „Літаратурнай старонкі"). Вершаў не чытаю, бо не маю замілавання да паэзіі. Да класікі адношуся яшчэ сяк-так. Цяпер жа ўзяўся выказаць свае адносіны да наватарскай плыні. Мае погляды — погляды народу, вясковага асяроддзя.

Віктар Швед піша, што наша вясковае асяроддзе не разумее паэзіі Яшы Бурша, што ў паэзію Бурша можа пранікнуць толькі адукаваны чалавек. Далей: ён (Бурш) староннік сучаснасці ў паэзіі, вораг рыфмы і граматычнай праўнасці слова, ён першы ў нашым літаратурным руху парушыў рытміку і фанетычнае гучанне верша. Далей: аўтарскія сустрэчы Я. Бурша выклікалі зацікаўленне толькі ў сярэдніх школах. Далей: у апошніх гадах Я. Бурш зусім не дасылае сваіх твораў у „Ніву" (а дай Божа яму здароўе за гэта, бо „Ніву" найбольш чытае „неадукаванае" асяроддзе), хоць надалей піша шмат (мае розум, сам сабе зварыў, сам і з'еў).

Прачытаўшы гэта ўсё, кожны „неадукаваны" селянін можа мець да аўтара вялікі жаль. Такія лёгкадумныя вывады! Шчэ й ад каго? Чалавека, атрымаўшага высокаадукаванасць.

Не такія мы ўжо ёлупні цара нябеснага, як вам, адукаваным, здаецца. Неадукаваны хіба не азначае, што ён неразумны. А дурнёў не бракуе і ў адукаваным асяроддзі. Пачуццё смаку, харaства, цноты аднолькавае як у адукаваных, так і ў неадукаваных. Паэзія належыць да харaства, а харошую паэзію мы аж нат разумеем і любім. Ва ўнутраны свет паэзіі Бурша вы, адукаваныя чалавекі, можаце пранікаць колькі вам улезе, без чаргі, не шкада. Мы, вясковае асяроддзе, яе й разумець не хочам, шкада часу, бо яна ў цвярозым паняцці не паэзія, а суперхрановіна адна. А тое, што яна выклікае зацікаўленне ў моладзі сярэдніх школ — нічога дзіўнага. У такім веку рэдка які ліцэіст (ці ліцэістачка) не марыць быць паэтам (ці паэтэсай). А пісаць з рытмам, рыфмай і фанетычным гучаннем, то, браценька, не хаханькі. Нат меўшы талент, трэба мазгаўніцай паварушыць, трэба мець да таго цярплівасць і ўпар-

(Працяг на стар. 7)

**Ідэя сяброўскіх шаржаў і подпісы да іх Дратвы і Ювэ. Графічнае выкананне С. Рыбі.**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, многіх чытачоў „Нівы“ цікавіць той факт: адкуль Астрон, той, што гадае сны, бярэ такія і часта дакладныя адказы. А мо гэта ўроджаны гадальшчык сноў, так як калісьці ў нас у Дубічах Царкоўных была старушка Сцепаніда, якая вельмі добра гадала сны, куды лепш ад розных кніжных соннікӑў. Мяне гэта таксама цікавіць, ці мо Астрон нешта чэрпае з нейкага сонніка, якія ў нас не выдаюцца, а варта было б, каб друкаваліся. Дык няхай Астрон адкажа на гэтыя пытанні чытачам „Нівы“.

М. Панфілюк

Дарагі **М. Панфілюк!** Дзе вы бачылі такога мага, які б здраджваў свае таямніцы?! Тады перастаў бы ён быць таямнічым і цікавым. Была калісь у Дубічах старушка Сцепаніда, а ў „Ніве“ сёння ёсць Астрон, які прабуе талкаваць сны на свой спосаб. Ці ж гэтага вам мала?

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, год назад пазнаёмілася я з хлопцам. Спачатку быў ён проста мне сябрам. Хадзілі разам на дыскатэкі, штораз больш прабывалі разам, і я зразумела, які блізкі ён мне. Усё больш мне падабаўся — быў мілы, сімпатычны і нейкі таямнічы. Не гаварыў аб каханні, а я ж так ад яго гэтага чакала. Часамі здавалася, што пэўна ён адно робіць, а другое думае. Як раскрыць яго думкі... ці кахае ён мяне... Падумала: не пайду на спатканне. Мала таго, пачала спатыкацца з іншым хлопцам. Спадзявалася, што выклічу гэтым у ім зайздрасць. На дыскатэкі я прыходзіла з іншым хлопцам, з ім гуляла, а ён прыходзіў адзін, мала гуляў, да мяне не падыходзіў. Але аднойчы ўбачыла я яго з іншай дзяўчынай. Крыўда і смутак авалодаў маім сэрцам. Яшчэ раз я адчула, які ён мне дарагі. Але як вярнуць яго назад? Памажы, Сэрцайка.

Ірэна з Беластока

Ірэна! Сама ты вінавата, што страціла хлопца. Гледзячы на твае ўчынкі, ён зразумеў, што ты яго не кахаеш, калі знайшла сабе іншага. І што ж яму было рабіць — таксама знайшоў сабе іншую дзяўчыну. І як цяпер вярнуць яго? — пытаеш. Калі ён кахае цябе, напэўна вернецца да цябе. Толькі ты мусіш сябе паводзіць адпаведна, не дэманстравацца перад ім з іншымі хлопцамі, а старацца паказаць, што не іншы, а ён табе падабаецца. Напэўна крыўдна яму за твой учынак, але каханне здольна многае прабачыць.

**Сэрцайка**

# БОЦЬКІ

(Працяг са стар. 1)

**Пятроўскі** быў салдатам I Арміі Войска Польскага і яго шлях змагання вёў праз Леніна, Люблін, Варшаву, Быдгашч, Вроцлаў, Берлін да Эльбы. Салдатамі ЛВП былі таксама **Ю. Арцюшкевіч, Э. Шмігельскі, П. Брыцкі, З. Разумнік, Ю. Тваро̆ўскі** і іншыя.

Для Боцькаў барацьба за перамогу народнай улады зусім не закончылася 22 ліпеня 1944 г., калі II Беларускі фронт Савецкай арміі, а дакладней яго 65 армія пад камандаваннем генерал-палкоўніка **Паўла Батава** вызваліла гэтае мястэчка ад фашыстаў. Ад таго часу амаль на працягу сямі год тут не спынялася жорсткая класавая барацьба. Аб'ектам атакаў рэакцыйнага падполля быў пастарунак народнай міліцыі ў Боцьках. Аж сем разоў нападалі бандыты, часам у сіле 50-70 узброеных па зубы, на абараняўшых яго 5-8 міліцыянтаў. У выніку гэтага загінулі ад варожых куляў або згарэлі параненыя 34 міліцыянты і працаўнікі дзяржаўнай біспекі. Імя гераічнага каменданта пастарунка **Яна Антоняка** прысвоена мясцовай зборнай гмінай школе. У Залатой кнізе ў Палацы народнай памяці, што знаходзіцца ва ўзвездзеным грамадскай працай і з добраахвотных складчын жыхароў Бельшчыны Доме міліцыянера ў Боцьках, я прачытаў такі запіс: *„Мы ганарымся нашымі героямі, якія аддалі сваё жыццё за нашую народную ўладу. Гарцэры будуць ушаноўваць іх памяць і браць з іх прыклад. — Гарцэры Боцькаўскай пачатковай школы“.*

Сённяшнія Боцькі — гэта даволі актыўны адміністрацыйны, культурна-асветны і гандлёва-рамесніцкі цэнтр тыпова сельскагаспадарчай гміны, якая ў Беластоцкім ваяводстве займае другое месца па колькасці быдла на 100 га ўжыткаў. Тут асабліва добра пастаўлена гадоўля дойных кароў, свіней, вырошчванне цукровых буракоў. На боцькаўскіх палетках **Асташы, Белі, Грабавец, Далёкае Поле, Паковая Даліна, Хокава** людзі збіраюць высокія ўраджаі. Тутэйшы селянін **Турковіч Уладзімір** у мінулым годзе даставіў дзяржаве 54 тоны гароднiны і садавіны, гаспадар **Ян Стэпанюк** — каля 28 тысяч літраў малака і такіх працавітых і дбайных людзей у мястэчку ёсць многа, з кожным годам павялічваецца сельскагаспадарчая вытворчасць. Добра працуе тут і СКР, ён спецыялізуецца ў адкорме свіней і ўбойнага быдла. Кожны год прадае дзяржаве 1500-1700 штук кормнікаў і каля 300 штук букатаў, а гаспадарыць усяго на 350 гектарах, што параскіданы аж у 160 кавалачках па вёсках амаль усяе гміны. Цяпер СКР будуе дадатковыя дзве фермы: адну на 4 тысячы кормнікаў, другую на 360 дойных кароў. Мястэчка паволі, але ўпэўнена разрастаецца, узбагачаецца прыгожымі жылымі дамамі, новымі крамамі. Таму, імкнучыся з Беластока на Надбужжа, варта ў ім затрымацца, пахадзіць па яго такіх свойскіх вулачках, як Бельская, Бранская, Дубенская, Пустая, Старасельская, Новая, Зарэчанская, і іншых і палюбавацца гэтай мясцінай з такой багатай гісторыяй.

**Мікалай Гайдук**

**Фота аўтара**



*Ад гэтага ўтульнага домікa тхне спакоем і цішынёй малога мястэчка.*

## Куток практычных ведаў

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# З МАКАРОНУ



Калі ў вас будзе мала часу на падрыхтоўку стравы, зрабіце нешта з макарону. Праўда, лекары гавораць, што ад макарону людзі вельмі паўнеюць, але ў нас жа не Італія і людзі макарону штодзень не спажываюць.

100 грам макарону забяспечвае амаль у 30 працэнтах патрэбы арганізма ў вугляводах, дае таксама шмат раслiннага і жывёльнага бялку (асабліва чатырохяечны макарон), фосфару і вітамін з групы В. Так, як усе вугляводы, макарон з'яўляецца сытным прадуктам, і абедам, падрыхтаваным з яго, а яшчэ дадаўшы сыра, яечак ці мяса і салаты, можна добра наесціся.

Каб макарон быў смачны, трэба зварыць яго ў вялікай колькасці вады. Кладзем яго заўсёды ў кіпень, варым 12-20 мінут у залежнасці ад таўшчыні макарону. Адстаіўшы зварaны макарон з агню, трэба даліць да яго кубак халоднай вады і патрымаць так макарон дзесяць мінут пад крышкай.

### МАКАРОН ПА-ПОЛЬСКУ

Трэба ўзяць 25 дэкаў макарону (найлепш свідэркаў), 15 дэкаў сцертага на бурачанай тарцы эдамскага сыра або іншага жоўтага сыра, 5 дэкаў масла, соль, зеляніну. Макарон усыпаць у вялікую колькасць кіпеню, варыць каля 20 мінут. Даліць халоднай вады, адцадзіць на сіце. Тады макарон палажыць назад у каструльку, паставіць яе на агні, дадаць масла і сцерты сыр, мяшаць 2-3 мінуты, пакуль масла не распусціцца. Падаваць макарон, пасыпаны зялёнінаю. Асобна можна падаць вараную гародніну або салату з сырой гародніны.

Падобна можна рабіць макарон і на італьянскі спосаб. Толькі сыр павінен быць плесневы і трэба расцерці яго са смятанай, дадаючы па смаку соль і перац. І з гэтай масай трэба змяшаць макарон, пасля чаго трымаць яго таксама мінуты 2-3 на слабым агні. Макарон выкладаем у талерку, нацертую часнаком. Зразумела, падрыхтоўваючы макарон па-італьянску, бярэм шпагецці.

**Гаспадыня**

А. ВОІНАЎ

## КАМЕНДАНЦКАЯ ГАДЗІНА

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Лена прыйшла дамоў якраз своечасова. Надзя ўжо зноў старанна зачыніла дзверы і моўчкі ўзялася за работу.

Стаўшы ля акна, Лена паглядзела на вуліцу — усё спакойна, і прысеўшы на падаконнік, побач з фікусам, пачала цярпліва чакаць.

Калі Надзя занята справай, яе лепш не чапаць — выбухне, як петарда.

І ўсё ж Лена нецярпліва спытала:

— Ну што там? Што адбываецца?

— Ідзі паслухай!..

Яе адразу аглушыла шалёная істэрыя вайны, і цішыня пакоя імгненна страціла сваю прывабнасць. На ўсіх рэгістрах, пачынаючы ад пранізліва тонкага, свісцяць, стукаюць, гудуць марзянкі, чутны галасы. На імгненне з'явіўся гук скрыпкі, і тут жа на яго, як на чужака, люта накінуліся ўсялякія свісты і хрыпы. Дзіўна, як Надзя можа адшукаць штабную рацыю ў гэтым хаосе.

— З'явіліся тры новыя нямецкія рацыі! — сказала Надзя.

Лена скінула навушнікі і зноў адышла да акна.

— Як ты думаеш, далёка да горада?

— Не, дзесьці зусім блізка. Гэта для нас шчасце, Ленка!

— Чаму?

— Ды таму, што ў горадзе часта мяняюцца рацыі. Пеленгатары не паспяваюць сачыць за ўсімі. Калі б адны і тыя ж, нас даўно засеклі б.

— Ткачэвіч! — раптам сказала Лена. — Пераходзіць вуліцу. Спяшаецца!..

Праз мінуту Ткачэвіч, абросшы светлым шчаціннем, увайшоў у пакой, стомлена сеў на крэсла.

— У гэтым доме шклянку вады атрымаць можна?

Пакуль ён піў вялікімі прагнымі глыткамі, Лена разглядала яго твар. Так, за гэтыя дні яму дасталося. Ён схуднеў, шчокі ўваліліся, вочы жмурыліся, як у чалавека, які з усяе сілы змагаецца са сном.

— Дзе Міша? — раптам спытаў Ткачэвіч.

— Шукаю з самай раніцы...

— А што здарылася?

— Прыбыў Натушар!

— Хто ён?

— Хто? — паўтарыў Ткачэвіч, здзіўлена паглядзеўшы на Лену. — Натушар — гэта буйны, я сказаў бы, буйнейшы нямецкі спецыяліст па эвакуацыі. Калі яму ўдасца, то разбярэ па цаглінцы нават оперны тэатр і вывезе. І ўсё ж гэта не галоўная навіна. Дай яшчэ вады!..

Ён зноў асушыў шклянку. Зняўшы навушнікі, Надзя прыслухоўвалася да размовы.

— Папеску зняты! — прамовіў Ткачэвіч і памаўчаў, нібы абдумваючы гэту акалічнасць. — Замест яго прызначан зондэрфюрэр доктар Петры. І я таксама пайшоў на павышэнне, — усміхнуўся ён. — Мае заслугі ацэнены, і Петры прызначыў мяне адказным за порт. Вы разумееце, што гэта значыць?.. Я павінен дапамагаць ім грузіць крадзенае...

— А што ж рабіць? — спытала Лена. Яна разумела, які яму зараз цяжка, але ведала: калі немцы заўважаць, што ён сабатуе, то неадкладна яго расстраляюць.

Ён сядзеў, прываліўшыся да спінкі крэсла і зажмурыўшы вочы, думаючы аб нечым сваім. Як ён змяніўся з таго часу, калі ўпершыню ўбачыла яго ў порце! Чаму ён тады дапамог? Многія не любілі яго за рэзкасць і нелюдзімасць. Ён і сам, здавалася, рабіў усё, каб яго лічылі чалавекам, які прадаўся немцам. А потым гэта шчырая размова з Мішам... І з ёю!

— Сёння з раніцы ў порце пачаліся дзіўныя падзеі, — сказаў Ткачэвіч нібы без сувязі з папярэднім, — Натушар і доктар Петры зачыніліся ў кабінеце і дзве гадзіны гутарылі з оберлейтэнантам Крэйнцам.

— Крэйнц? — зноў спытала Лена. Яна ведала амаль усіх немцаў, якія працавалі ў порце, але гэта прозвішча было ёй незнаёма.

— Ён камандзір каманды падрыўнікоў, прыбыў усяго некалькі дзён назад. І мне думаецца, тут прамая сувязь з тым, што ў порт прыгналі некалькі соцень ваеннапалонных... Іх размясцілі ў памяшканнях склада. Вартавыя не выпускаюць іх нават на прагулку. Але я таксама аб тым-сім падумаў. Натушар і Петры не ўмеюць гаварыць па-руску. Ім патрэбны перакладчык. І я падшукаў ім надзейнага чалавека.

— Мішу!

І хоць хвіліна была вельмі напружаная, яны засмяяліся...

Чакаць Мішу давялося вельмі доўга. Ён прыйшоў толькі вечарам, стомлены не менш, чым Ткачэвіч. Ён абышоў амаль усю нафтагавань і падлічыў, што зноў узляцела ў паветра каля чатырохсот цыстэрнаў. Але цяпер гэта лічба была важнай толькі для Надзі.

Ткачэвіч забраў яго з сабой і павёў у порт знаёміць з новым начальствам.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Бельскі кааператыў інвалідаў

Кааператыў інвалідаў „Пшышласць" у Бельску існуе ад 1953 года. Тут ужо некалькі аддзелаў. На першым месцы стаіць кравецтва. Працуе дзевяць краўцоў. Кіраўніком з'яўляецца Канстанцін Дораш, які раней сам быў краўцом. За добрую і сумленную працу паставілі яго кіраўніком і ён вельмі добра выконвае свае абавязкі. Гэта ён бярэ мерку, кроіць і адсылае да ўласцівага краўца.

Кравецкая майстэрня ў Бельску змяшчаецца на рагу вуліц Міцкевіча і Відаўскай. Найлепшыя краўцы гэта Саковіч Міхал, Гуральчык Філіп, Дораш Аляксей. Усе стараюцца выканаць работу як найлепш. Часта працуюць нават пасля гадзін працы і ў вольныя суботы. Таму кааператыў выконвае свае планы звыш нормы. Адна ўвага пры гэтым: маладыя не хочуць займацца кравецтвам. Праз некалькі гадоў можа дайсці да таго, што не будзе дзе пашыць нагавіцы.

**Васіль Асеннік**

## Клуб селяніна ў Цялушках

Прыехаў у вёску Цялушкі прэзас ГСу з Заблудваа. Сабраліся людзі. Ішла гутарка аб тым, што няма клуба ў вёсцы і што ён патрэбны. Каб у вёсцы клуб быў, патрэбна памяшканне. А ў Цялушках стаіць парожняя школа, у якой ужо дзеці не вучацца. Калі гэты будынак будзе перададзены ГСу, сказаў прэзас, зробяць тут клуб селяніна. Паставяць тэлевізар, столікі, а гаспадара клуба вёска павінна знайсці сярод жыхароў вёскі.

Сабраныя гаспадары вёскі на чале з солтысам Паўлам Марчуком аднадумна такую прапанову прынялі. Цяпер толькі трэба чакаць, што справа хутка будзе ўладжана.

**М. Матвеюк**

(Працяг са стар. 5)

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

тасць. А гэтак, па яшбурску — па баку граматыку, даз-два — і ў дамках.

Напісаць верш па сучаснай плыні — і хутка, і лёгка. Аўтарскія сустрэчы Я. Бурша ў сярэдніх школах ў шасцідзесятых гадах прынеслі багаты плён. Ужо ў сямідзесятыя гады, як сцвярджае аўтар „Парнаса", у літаб'яднанне ўліўся струмень маладых сіл. 24 асобы. Ніводнага празаіка. Усе паэты і паэтэсы. Роўненька: 12 хлопчыкаў і столькі ж дзяўчатак. Пераважна абсальвенты і вучні бельскага і гайнаўскага ліцэяў. Гэта значыць, удзельнікі аўтарскіх сустрэч Я. Бурша. Празаічна падлічыўшы тую частку насельніцтва, якому ўдалося змясціць сваіх дзяцей у гэтых ліцэях, атрымаем больш-менш такі вынік: кожныя 5 тысяч беларусаў дало свету па адным паэту (ці там паэтэсе). Паказнік небывалы! Нат у найздальнейшых народаў не знойдзеш такога. Значыць, ёсць нашай Беласточчыне чым ганарыцца і цешыцца.

У рэчаіснасці аднак гэта не пацеха, а ілюзія, самаабман (і „беларускага парнаса ў Народнай Польшчы", і аўтара яго, і невялічкай лічбы адукаванцаў). Бо народ з гэтага ўсяго не мае ані на грош пацехі. Аказваецца, з гэтага літпапаўнення толькі 4 хлопчыкі пішуць па-народнаму. Рэшта (8 хлопчыкаў і ўсе дзяўчаткі) адшчапенцы, марнатраўныя сыны (і дочкі), адасобленая каста зазнаек. Нячыстая сіла паказала ў гэтым сваю моц. Калі ў наш час прагрэсу ўся навука і тэхніка аблягчае нам працу і жыццё, дык толькі сучасная паэзія (наватарская), бы сляпое кацянё, шукаючы чагосьці, тыкаецца туды-сюды ў бязраднасці сваёй. Стварае бяздарную паэзію, вершы-рэбусы, красворды (ні склад у ім — ні лад, хоць ты ім вытры зад). Яшбуршчына!

**Дзядзька Квас**

### НА АДПАЧЫНАК У НАРАЎКУ

У былым Гайнаўскім павеце галоўным цэнтрам адпачынку і турызму была і ёсць Белавежа. Мясцовасць гэта вядомая ва ўсім свеце. Ды ў сезоне тут робіцца ўсё больш цесна. Неабходна аблегчыць ролю Белавежы. І вось тут улады звярнулі ўвагу на Нараўку і ваколіцу. Ужо мінуў год, як іменна тут быў пабудаваны ОСіР (цэнтр спорту і рэкрэацыі).

Ля мосту ў самой Нараўцы, за 3 мільёны злотых, быў пабудаваны аб'ект, у якім памясціліся начлежныя пакоі, пазычальня спартыўных і турыстычных прыладаў. Ужо цяпер тут можна пазычыць 32 байдаркі, палаткі, матрацы на 80 асоб, пасцель на 60 асоб. ОСіР мае 20 спальных мяшкоў і 10 веласіпедаў. Палаткі можна паставіць на плошчы, на якой знаходзіцца сто месц. Гэтае поле абгароджана, асветлена і каналізавана. У бліжэйшы час паставяць тут 10 кампінговых домікаў.

Ва ўладанні ОСіР знаходзіцца мясцовы стадыён, які выглядае штораз лепш. Тут новыя лаўкі, ёсць вада і святло. Рыхтуюцца зрабіць новую агароджу. ОСіР мае 66 начлежных месц у сваіх памяшканнях, надлясніцтве і на прыватных кватэрах.

З гэтай базы ўжо ў апошнюю зіму карысталася каля 200 чалавек. Былі гэта пераважна работнікі розных установ, якія заказваюць тут прыгожую паездку па чароўнай Белавежскай пушчы. У гэтым ліку былі 23 турысты з Францыі.

Нараўкаўскі цэнтр адпачынку прыгожа размешчаны над рэчкай, пад дубамі, у Грушках, дзе можна цудоўна адпачыць і пагуляць зімою і летам. Вада і лес, чыстае паветра. Летам Нараўка запрашае таксама. Будзе больш новых месц у гасцініцы ГС, а смачна паесці можна будзе ў новым рэстаране „Чар пушчы", які будзе адкрыты ў сярэдзіне турысцкага сезона.

Абсалютная навіна: ОСіР прапануе цікавую экскурсію на байдарках: Нараўка — Рыбакі — Войшкі — Сураж — Угова — Крушэва — Жуўткі — Тыкацін.

**А. З.**

## НЕ ШАНУЮЦЬ

Дзве дарогі (адна ідзе ў Вітава з Дубіч Царкоўных, другая ў Чэхі Арлянскія) нядаўна былі абсаджаны маладымі дрэўцамі — рабінай. Кожнае прывязалі да калка, убітага ў зямлю. Прыгожа! Аднак, трэба сказаць з сумам, не ўсе людзі шануюць такое дабро. Бо ўжо сям-там паламаныя саджанцы і пераважна за Дубічамі — у тым месцы, дзе жыхары хаваюць на зіму ў ямках бульбу. Урочышча гэтае цягнецца ад адной дарогі да другой, ад чэхаўскай да вітаўскай, і з кожнай з іх можна даехаць да ямак. Але дрэўцы нікому тут не перашкаджаюць, трэба толькі быць асцярожным і хацець не паламаць іх. Але людзі едуць, не думаюць і не бачаць. Зачэпліваюць саджанцы і вырываюць з карэннямі.

Калісьці дарогі гэтыя былі абсаджаны таполямі, але людзі самыя прыгожыя ўкрадкам павырэзвалі на лыка да саламяных каробак. І таму цяпер лясныя ўлады рашылі абсадзіць рабінай, якая на лыка не гадзіцца, а дрэва прыгожае.

**П. Панфілюк**

## КРАМА № 8

Ужо другі год працуе спажывецкая крама № 8 аддзела ВСС „Сполэм" у Гайнаўцы на вуліцы Ліповай. Аб адкрыцці яе пісала „Ніва" ў 1976 годзе. Так, як у праграме працы пасялковых камітэтаў ёсць супрацоўніцтва з гандлем, пайшоў я, каб даведацца, як наша крама ацэньваецца ў дырэкцыі ВСС. Вось вынікі гэтай разведкі.

Крама № 8 працуе добра. Планы продажу з месяца ў месяц растуць. Крама прадае спажывецкіх тавараў на 500 тысяч злотых у месяц. За два гады працы не было ніводнай скаргі. А яшчэ да ўсяго гэтага і тое дадамо, што прадаўшчыкі гэтай крамы за 1977 год занялі першае месца ў Гайнаўцы, а трэцяе ў ваяводстве ў конкурсе на найчысцейшую краму. Конкурс быў арганізаваны ваяводскім санэпідам.

За дасягненнямі стаяць жывыя людзі, якія не шкадуюць сіл, каб дагадзіць пакупнікам — жыхарам пасёлка. Як прыемна паглядзець на ветлівыя адносіны паміж прадаўцом і пакупніком!

Кіраўніком крамы з'яўляецца шматгадовы працаўнік ВСС Вера Панькоўская. Іншыя працаўнікі крамы гэта — Вера Дамброўская, Ніна Капейчык і Генавефа Помах.

**Э. Вайсковіч**

### ДЗЕ ПАГУТАРЫЦЬ У ВЁСЦЫ?

Давялося мне пабываць ў вёсцы Альхоўка гміны Нараўка. У мясцовай краме людзі, сабраўшыся, вялі жывую дыскусію. Гутарка ішла аб працы ГС у Нараўцы. Бо і дзе ж ў Альхоўцы можна пагутарыць, як не ў краме? Гэта адзінае публічнае месца. У вёсцы няма ніякага клуба ці святліцы.

Але не аб гэтым сёння хачу пісаць. Справа ў тым, што ГС у Нараўцы ўжо каля года часу не скупляе скур і воўны. Калі адышоў, па прычыне хваробы, працаўнік, ГС не вырашыў праблемы. Людзі вымушаны вазіць скуры і воўну ў Гайнаўку або Міхалова.

У адрас ГС у Нараўцы такое пажаданне: пункт трэба адкрыць і трэба заўсёды шанаваць людскі час.

**Асот**

### ІМ ВЕЧНАЯ СЛАВА

Дзень перамогі ў Гайнаўцы прайшоў вельмі ўрачыста. На плошчы 20-годдзя перад помнікам у форме танка і на магілах савецкіх салдат было паложана дзесяткі свежых кветак і вянкоў. На гайнаўскіх могілках знаходзіцца магіла маладога лейтэнанта, героя Савецкага Саюза Аляксея Фларэнкі, імя якога носіць пачатковая школа № 2 у Гайнаўцы. Дзеці ніколі не забываюць пра свайго патрона. Усю магілу яны залажылі кветкамі.

У СССР, у горадзе Пермі жывуць яшчэ бацькі Алёшы. Раней яны прыязджалі ў гэты дзень на магілу сына. Цяпер ужо старыя і цяжка ім прыехаць, але дырэкцыя і ўсе дзеці не забываюць пра старых бацькоў героя. Пішуць ім пісьмы і паведамляюць аб сваёй пастаяннай апецы над магілай іх сына. Пісьмы бацькоў Алёшы, якія прысылаюць яны на адрас школы, сведчаць аб удзячнасці і радасці, што маладое пакаленне польскіх вучняў ведае і шануе сваіх герояў.

**Э. Вайсковіч**

## НОВАЕ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Можа і Белавежа стане нарэшце прыгожым турысцкім мястэчкам. Першыя сімптомы гэтага ўжо ёсць.



*Шыльда бару „Сарэнка".*

Вось нядаўна на ГСаўскіх крамах і меншых гандлёвых пунктах паявіліся новыя арыгінальныя шыльды. У розных месцах пасёлка пастаўлены цікавыя, нешаблонна зробленыя паказальнікі важнейшых турысцкіх аб'ектаў і рэстаранаў. Ёсць чым палюбавацца. Праўда, шмат гэта ўсё каштавала. За ўжо зробленыя шыльды, паказальнікі, дошкі на аб'явы ГС заплаціў 79 тысяч зл., а ў майстэрні яшчэ рыхтуюцца новыя на 60 тысяч зл. Але ў адносінах да даходаў, якія мае Белавежа з турызму, гэта сума проста смешная.

Усе апісаныя рэчы запраектавала і выканала мастацкая майстэрня ў Беластоку.

**Тэкст і фота П. Байко**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да артыкула „БАРАТЫНЕЦ РУСКІ", „Ніва" № 37/1124 ад 11 верасня 1977 г.**

Адказвае: **URZĄD MIASTA I GMINY W SIEMIATYCZACH.**

W odpowiedzi na artykuł prasowy zamieszczony w tygodniku „Niwa" z dnia 11 września 1977 roku, uprzejmie wyjaśniam, że budynek świetlicy we wsi Boratyniec Ruski jest własnością wsi i opiekę nad nim sprawuje samorząd wiejski. Budynek wymaga remontu, który powinien być przeprowadzony w ramach czynu społecznego mieszkańców. Urząd Miasta i Gminy w Siemiatyczach w bieżącym roku nie posiada środków finansowych na remonty, ale może skorzystać z budżetu na popieranie czynów społecznych. Potrzebna jest tylko chęć i zaangażowanie tamtejszych mieszkańców. W świetlicy organizowane są zabawy taneczne i dochód z nich zasila konto Wiejskiego Komitetu Świetlicowego. Zgromadzone środki pieniężne powinny być przeznaczone na remont budynku.

Ożywienia życia kulturalnego we wsi spodziewać się można jedynie z inicjatywy członkiń Koła Gospodyń Wiejskich. Funkcję przewodniczącej KGW sprawuje obecnie Walentyna Mudel, która aktywnie włącza się do społecznego działania. Młodzież przejawia małe zainteresowanie życiem kulturalnym w swojej wsi. Pracuje przeważnie w pobliskich Siemiatyczach i tam korzysta z rozrywek kulturalnych.

Remont drogi będzie wykonany przed 1980 rokiem.

Czyniłem starania celem zmodernizowania odcinka drogi z Boratyńca Ruskiego do przejazdu kolejowego poprzez położenie nawierzchni bitumicznej. Okazało się, że jest to niemożliwe, ponieważ Rejon Dróg Publicznych w Siemiatyczach nie posiada dodatkowych mocy przerobowych i wysiłki swe koncentruje przede wszystkim przy wykonywaniu robót na drogach o większym znaczeniu dla naszej gospodarki. W tej sytuacji podejmujemy doraźne działania w celu utrzymania nawierzchni w stanie przejezdnym do czasu rozpoczęcia gruntownej naprawy drogi.

**Naczelnik Miasta i Gminy**
**Dariusz Terlikowski**

**Да заметкі „АХ, ТАЯ ДАРОГА!", „Ніва" № 17/1156 ад 23 красавіка 1978 г.**

Адказвае: **URZĄD GMINY W HAJNÓWCE.**

W związku z notatką prasową zamieszczoną w tygodniku „Niwa" z dnia 23 kwietnia 1978 roku w sprawie remontu drogi z Trywieży do Kotówki, Urząd Gminy w Hajnówce informuje, że wstępne prace przy budowie tego odcinka drogi przeprowadzone zostaną w dniu 21 maja bieżącego roku w czynie partyjnym. W dalszym ciągu prace budowlane będą kontynuowane w ciągu tego roku i w roku następnym, w czynie społecznym mieszkańców okolicznych wsi.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Sergiusz Kojło**
**Sekretarz Biura**

**Да публікацыі „КАЛІ ЗАКОНЧЫЦЦА ПАБУДОВА?", „Ніва" № 46/1133 ад 13 лістапада 1977 года.**

Адказвае: **URZĄD GMINY W DUBICZACH CERKIEWNYCH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w tygodniku „Niwa" (nr 46/1133 z dnia 13 listopada 1977 roku) pt. „Kiedy zakończy się budowa?" wyjaśniamy, że budowa świetlicy we wsi Wojnówka jest prowadzona jako inwestycja czynowa tj. na zasadzie: materiały dostarcza Urząd Gminy, natomiast robociznę wnoszą mieszkańcy wsi.

Urząd Gminy w Dubiczach Cerkiewnych zakupił niezbędne materiały. Termin zakończenia budowy jest zależny tylko od mieszkańców wsi.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Jan Gierasimiuk**
**Inspektor d/s budownictwa**

**Да заметкі „ПА ЦЭГЛУ Ў „СІЛІКАТЫ", „Ніва" № 16/1155 ад 16 красавіка 1978 года.**

Адказвае: **BIAŁOSTOCKIE PRZEDSIĘBIORSTWO CERAMIKI BUDOWLANEJ ZAKŁAD SILIKATOWY W BIAŁYMSTOKU.**

Zasady organizacji i tryb wydawania cegły w Zakładzie Silikatowym w Białymstoku są zawarte w instrukcji o gospodarce magazynowej nawiązującą do zarządzenia nr 28 Ministra Budownictwa i Przemysłu Materiałów Budowlanych z dnia 2 lipca 1975 roku w sprawie gospodarki materiałowej (znak: CZM-GE-011-1) oraz branżowej instrukcji obiegu dokumentów i kontroli wewnętrznej w zbycie wyrobów gotowych ceramiki budowlanej.

Popyt na produkowane przez nasz zakład wyroby mimo systematycznie przekraczanych planów produkcji (na przykład, wysokość ponadplanowej produkcji w pierwszym kwartale bieżącego roku była rzędu 1326 tys. sztuk cegły wapiennej) nie jest w pełni zaspokojony.

Podstawowym obowiązkiem odbiorcy cegły z naszego zakładu jest ustalenie terminów odbioru, o czym poinformowane są instytucje zajmujące się sprzedażą cegły. Zlekceważenie tej zasady, liczenie na łut szczęścia, powoduje wykazane w Waszej interwencji sytuacje. Często w interesie odbiorców stosowane jest przez zakład silikatowy przedłużanie obowiązującego czasu pracy magazynu.

Czas oczekiwania na załadunek zdecydowanie przedłuża się także dlatego, że odbiorcy zajmują kolejkę w godz. 3.00—7.00, podczas gdy wydawanie cegły odbywa się w godz. 6.00—16.00, co przy określonej zdolności załadowczej suwnic bramowych, którymi dokonuje się załadunku, musi prowadzić do oczekiwania na odbiór cegły nawet do 6 godzin.

Obecnie zakład znajduje się w końcowej fazie modernizacji. Stan ten nie sprzyja utrzymaniu rytmiki produkcji, zdarzają się więc nieprzewidziane przerwy produkcyjne wynikające np. z przebudowy linii energetycznej, bądź demontaż urządzeń produkcyjnych i prace te dezorganizują w poważnej mierze działalność organizacyjną i produkcyjną zakładu.

Zmiana istniejącej sytuacji na obecnym etapie jest zatem w dużym stopniu uzależniona od dyscypliny odbiorców, ścisłego przestrzegania zasady ustalania terminów odbioru.

Obecnie zakład praktycznie nie dysponuje nadwyżkami cegły w magazynach.

Poprawa nastąpi po zakończeniu modernizacji zakładu w IV kwartale 1978 roku, w wyniku której zdolność produkcyjna zakładu wzrośnie do 75 milionów jednostek ceramicznych.

**Kierownik**
**Zakładu Silikatowego**
**Jerzy Kotowski**

# У НАС, У ПАЭТАЎ

Абедаў я неяк у кафэ. Тут ён да мяне і падсеў. Прадставіўся:

— Паэт Апанас Крыкунок.

Убачыўшы ў мяне кніжку вершаў, пацікавіўся:

— Паэзію любіце?

— Але, — згадзіўся я.

У нас, у паэтаў, кожная падзея ў жыцці — тэма для творчага ўзлёту. Для вас, чытачоў, гэта проста вершык, а для нас, паэтаў, гэта жыццё, — Апанас запытальна паглядзеў на мяне і, убачыўшы на маім твары зацікаўленасць, глыбакадумна спытаў: — Вось вы ведаеце, чаму паэт А. у свае шэсцьдзесят год пачаў пісаць лірычныя опусы?

— Настрой, пэўна, лірычны, — выказаў я здагадку.

— Але ж, — ухмыльнуўся Апанас. — Гэта для вас, чытачоў, а мы, паэты, ведалі: завёў паэт А. маладую палюбоўніцу.

— А як вам падабаюцца вершы паэтэсы М.? — паспрабаваў я змяніць тэму размовы.

— Сумота. Адна сумота, — завойкаў Крыкунок і даверліва дадаў: — З мужам развялася. На паэтычнай глебе. А зараз сумуе.

— А паэт Ю. напісаў цікавую трагедыю. Чыталі? — зноў паспрабаваў я супыніць разважанні Крыкунка.

— П'е. Паўгода ў запоі. Таму і трагедыя. У адной бяседзе пабіўся з паэтам Е. У маналогу з другога акта гэта яскрава адчуваецца. У нас, у паэтаў, кожны крык душы вершам гучыць!

— Вось яно як, — кажу. — А мо вы ведаеце, чаму перакладчык Ш. раптам гумарэскі пісаць пачаў?

— А што яму рабіць, як не смяяцца: жонка ў яго... — пачаў Апанас.

— І хто яго жонка? — спытаў я.

— Замежная артыстка. Глядзелі фільм „Ноч для кахання"? Тая, што ў вопратцы Евы смажыцца на пляжы — яна! — Крыкунок уздыхнуў і дадаў: — Прыгожая жанчына. Каб з ёю размаўляць, ён і стаў перакладчыкам. Тут я не вытрымаў.

— Браток, — кажу. — Прабач, што адразу не сказаў. Як кажуць у нас, у паэтаў, перакладчык Ш. — гэта я. І яшчэ дадам, што халасты я пакуль. І ніякіх замежных артыстак сярод знаёмых не маю.

Апанас войкнуў і не развітваючыся пашыбаваў ад мяне.

**Марат Баскін**



— *Аб густах не спрачаюцца.*



**...Ён доўга выцiраў ногі перад тым, як увайсці ў гісторыю, але дзверы аказаліся зачыненымі.**

# НІЎКА



*Прызнанне майстра і яго дапамога быту.*

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

### АМАТАРАМ ЛІТДЫСКУСІЙ

*Пустога шуму не выношу.*
*Чым пляскаць пугай па вадзе, —*
*Білет у рукі і на пошук.*
*Жыццё ні ў чым не падвядзе.*

*Для новых фактаў частаколу*
*Не ўзводзь дармэна без пары.*
*Сабе ў падмогу, як геолаг,*
*Разлікі цвёрдыя бяры:*

*Што адкладалася па эрах,*
*У якіх разрэзах і пластах,*
*Каб не ліпела ўсё на веры,*
*Як той дзядоўнік на хвастах.*

*Мы часта гонімся за модай,*
*Нібы яна ўжо — соль зямлі;*
*Сядзім, наседжваем на сходах*
*На мяккім месцы мазалі.*

*Узводзім спрытна маўзалеі*
*Пустапарожняе хвалы*
*Ці коцім нуднага ялею*

*Нам непатрэбныя валы.*

*Ці славім шэрасць пад сурдзінку —*

*На лаўры кожны з нас хіцёр —*
*Перахварэць не ўспеем свінку,*
*Як схопім коклюш ці адзёр.*

*Слупок пад сорак узлятае,*
*А ўсё шуміць, гудзе Парнас,*
*Ад бурных спрэчак аж хістае,*
*Хоць ты вядзі пад пашкі нас.*

*Паглядзіш збоку: божа мілы,*
*На людзях твару не відаць,*
*I... усміхнешся: тыя б сілы*
*На творы новыя аддаць.*

### НОВЫЯ ЎГОДНІКІ

У час конкурсу „Белавежская літаратура".

Свяшчэннік *(рассеяна)*: — Дзіцё маё, назаві святых „белавежцаў".

Міколка *(без запінкі)*: — Мучанік Сакрат Вялікагарадскі... Прападобны Іаан Калодзежны, цудатворац Дубіцкі... Дзеваносец Аляксандр Бандарскі і новапрылічаны ўгоднік Віктар з Мора, іерэй у Варшаве.

### З „ВЕСНІКА ЗАДРЫПАНКІ"

Перайшла на самаабслугоўванне група маладых паэтаў Задрыпанкі. Цяпер яны самі пішуць вершы, чытаюць іх, слухаюць і хваляць.

### САНЕТ

Паэт: — Дарагая, наша Элачка, напэўна, спаліла мой апошні санет.

Жонка: — Не хвалюйся, любы... Яна яшчэ не ўмее чытаць.





*Канфлікт.*

### РАМАН

— Нарэшце скончыў я свой раман.

— Віншую! Куды здаў?

— У суд. На развод.

### ПАРНАС

— Колькі будзе да Парнаса?

— Калі ўлічыць, што вельмі многім жыцця не хапіла на дарогу, то не блізка...

— Ха, то яны ж пехтурою паўзлі, а я на сваіх „жыгулях" толькі жыгну!

### АДКРЫЦЦЁ

— Як адпачывалася ля мора?

— Добра. Я там зрабіў для сябе адкрыццё. Аказваецца, бераг мора складаецца не з пяску і галькі, а з чалавечых целаў!



— *Смяльчак! Усё яшчэ шукае новыя формы!*

### ПЕГАСНЫЯ РАЗМОВЫ

— Купі, браток, майго Пегаса,
А то аддам табе й за так.
— Што з ім?
— На рукапісы ласы,
Маю паэму з'еў, лайдак.

*

— Пегас, Пегас, дай падаб'ю падковы,
Каб іскры высякаў ты на скале.
— А хіба, малавата тых, пунсовых,
Што зіхацяць у чарцы на стале?

*

— Дай, гаспадар, вады напіцца.
— Далёка ж, мой Пегас, крыніца.
— А ты і не хадзі туды,
Ты мне з паэмы дай вады.

**Браты Бароўкі**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ




— *Вось колькі кніг напісалі пра мяне аўтары.*

### ПЕЙЗАЖ

— О, які цудоўны пейзаж! — захапляецца паэт. — Я б не прамяняў яго ні на які іншы!

— Магчыма, — адказаў селянін, — але калі б вы гэты пейзаж павінны былі араць, засяваць, баранаваць, касіць, убіраць, тады б вы глядзелі на яго інакш.

### ЛІРЫЧНАЕ АДСТУПЛЕННЕ

Выкладчык электратэхнікі правярае хатняе заданне. У сшытку студэнта побач з электрычнымі схемамі намалявана дзяўчына:

— Што гэта такое? — паказаў на малюнак выкладчык.

— Лірычнае адступленне, — усміхнуўся студэнт.

### АПАВЯДАННЕ

— Як вам падабаецца маё новае апавяданне?

— Вельмі! Цудоўны сродак ад бяссонніцы.

### ДРАМА

— Твой капялюш — паэма.

— Я таксама думала, але калі муж даведаецца, колькі яна каштуе, ён зробіць з гэтага драму.



— *Кватэра 27? Музу заказвалі?*

# Курёзы

### ЯК СТАЦЬ ПАПУЛЯРНЫМ?

Вельмі проста, — пісаў у 1907 годзе пецярбургскі часопіс „Вестник литературы". — Ёсць надзейны рэцэпт:

Таленту — 1 кропля,
Шчасця — 2 шклянкі,
Бессаромнасці — графін,
Нахабства — вядро.

Змяшаць усё гэта разам і добра ўзбоўтаць перад ужываннем.

Вось вам, — рэзюмуе часопіс, — гатовы рэцэпт, як можна стаць „выдатным", „вядомым", „папулярным" пісьменнікам.

### ДУРАНЬ

Зайздрослівы пісьменнік Эрнст Кругер сутыкнуўся з Сафірам перад дзвярыма, у якія кожны хацеў увайсці першым.

— Не ўступлю дурню! — крыкнуў Кругер.

— А я гэта ахвотна зраблю. Прашу! — сказаў Сафір, адыходзячы ўбок.

### ЛІТКАНСУЛЬТАЦЫЯ

Нямецкі пісьменнік Тэодар Фонтане, працуючы рэдактарам у берлінскім выдавецтве, атрымаў ад аднаго маладога паэта дрэнныя вершы з наступнай просьбай:

„Паколькі знакам прыпынку я не надаю ніякага значэння, будзьце добры расставіць іх самі".

Фонтане звярнуў вершы аўтару з запіскай:

„На другі раз, калі ласка, прышліце толькі знакі прыпынку, а вершы я напішу сам".

### СПЫНІСЯ, ЧАС...

Пушкін, сустрэўшы на вуліцы Міцкевіча, адышоў убок і сказаў:

— З дарогі, двойка, туз ідзе.

— На гэта Міцкевіч адказаў:

— Козырная двойка й туза б'е.




**Бедны Пегас: столькі жадаючых яго асядлаць.**